ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# КРАІНУ РЭФЕРЭНДЗІЦЬ

**За той час, які прайшоў з дня выхаду мінулага нумару газеты «Пагоня», Беларусь проста захлынулі падзеі палітычнага кшталту. Апошняй кропляй стаў указ (якога, дарэчы, ніхто ня бачыў) прэзідэнта аб звальненьні старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі сп.Ганчара.**

**Зараз паспрабуем правесьці своеасаблівую хранaлогію падзеяў апошніх дзён.**

**15 лістапада. У 13 гадзін** будынак Цэнтрвыбаркаму быў ачэплены прадстаўнікамі АМАПу. Група супрацоўнікаў АМАПу, якую ўзначальваў начальнік упраўленьня дзяржаўнай аховы Міністэрства ўнутраных спраў М.Цесавец, зрабілі спробу выставіць старшыню Цэнтрвыбаркаму В.Ганчара з яго рабочага кабінету. Перашкодзіла гэтаму прыбыцьцё туды старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага і генеральнага пракурора Васіля Капітана.

Прэзідыюм Вярхоўнага Савету прыняў зварот да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, ураду, кіраўнікоў пракуратуры, Вярхоўнага Суду, МВД, КДБ, Міністэрства абароны, вобласьцяў і раёнаў, да кіраўніка СНД Б.Ельцына, кіраўнікоў дзяржаў, урадаў і парламентаў, да сусьветнай грамадзкасьці, каб не дапусьціць устанаўленьня дыктатуры на Беларусі.

Прэзідыюм Вярхоўнага Савету на прэс-канферэнцыі заявіла аб распачынаньні працэдуры імпічмэнту прэзідэнту.

**15.30.** Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар сілай выдвараны са свайго рабочага кабінету.

**16 гадзін.** БНФ пачынае пікетаваньне будынку Цэнтрвыбаркаму.

**16.00** Сьпікер беларускага парламанту праводзіць сустрэчу з прадстаўнікамі пасольстваў у Рэспубліцы Беларусь, перадае ім заяву Прэзідыума Вярхоўнага Савету.

**18.40.** Да будынку Вярхоўнага Савету на пляц Незалежнасьці пачынаюць зьбірацца людзі, каб падтрымаць дэпутатаў.

**Ноч з 15 на 16 лістапада.** Праводзіцца закрытая нарада кіраўніцтва беларускага парламанту.

**16 лістапада.** Старшыню Цэнтрвыбаркаму В.Ганчара не пускаюць у кабінет Цэнтрвыбаркаму.

Прыкладна **з 10 гадзіны** на пляц Незалежнасьці пачалі зьбірацца прадстаўнікі БНФ,ПКБ,АГПБ і іншых партыяў з патрабаваньнем імпічмэнту прэзідэнту Лукашэнку.

Старшыня камісіі Вярхоўнага Савету па міжнародных справах Пётр Краўчанка прымае прадстаўнікоў міжнародных арганізацый на Беларусі - ААН, Міжнароднага валютнага фонду, Еўрапейскага банку рэканструкцыі і разьвіцьця ды іншых. Ім перадаецца тэкст звароту Вярхоўнага Савету.

**17 лістапада.** У Менску праходзіць акцыя пратэсту супраць парушэньня ў Беларусі прынцыпаў свабоды слова і свабоды друку, пратэст супраць аднабаковай агітацыі толькі за прэзідэнцкі праект Канстытуцыі. Некаторыя грамадзяне ў выніку сутыкненьня з міліцыяй атрымалі раненьні і траўмы, некаторыя былі затрыманыя ў пастарунак. Былі зьбітыя некаторыя дэпутаты.

**18 лістапада.** Дэпутаты Вярхоўнага Савету зьбіраюць 76 подпісаў, каб распачаць справу імпічмэнту прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, і накіроўваюць подпісы ў Канстытуцыйны Суд.

**18 лістапада.** Па прычынах нязгоды з палітыкай прэзідэнта падае ў адстаўку прэм'ер Міхаіл Чыгір і міністр Аляксандар Сасноў (да гэтага ў адстаўку падаў намесьнік міністра замежных спраў Андрэй Саньнікаў).

**19 лістапада. 14.00.** Канстытуцыйны Суд прымае да разгляду справу аб імпічмэнце прэзідэнту А.Лукашэнку.

Намесьнік старшыні Цэнтрвыбаркаму Аляксандр Жук і сябра Цэнтрвыбаркаму Рыгор Кажура падалі ў адстаўку, пратэстуючы супраць ціску на камісію.

**20 лістапада.** Прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын праводзіць тэлефонныя перамовы з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам і старшынём Вярхоўнага Савету нашай краіны Сямёнам Шарэцкім. Насуперак заяве А.Лукашэнкі, што сп.Ельцына дэзінфармуюць аб сутнасьці падзеяў у Беларусі, прэзідэнт Расеі паведаміў, што мае поўную і дакладную інфармацыю аб іх.

Сямён Шарэцкі накіроўваецца на перамовы да прэзідэнта ў яго рэзідэнцыю. Суструўшы там вялікую групу дэпутатаў, якія праігнаравалі сесію парламанту, што ідзе ў гэты час, старшыня парламанту адмаўляецца ад перамоваў.

У Смаленску адбываецца сустрэча Сямёна Шарэцкага з кіраўнікамі расейскага парламанту Ягорам Строевым і Генадзем Селязьнёвым.

**Учора пасьля 15.00** павінна адбыцца сустрэча Сямёна Шарэцкага і Аляксандра Лукашэнкі.

**На 22 лістапада** ў Канстытуцыйным Судзе запланаваны разгляд справы аб парушэньні Аляксандрам Лукашэнкам Канстытуцыі.

Магчыма, што адразу пасьля свайго візіту ў Мурманск, Менск наведае прэм'ер-міністр Расеі Віктар Чарнамырдзін.

# СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ АНАТОЛЯ МАЙСЕНІ

**Трагічны выпадак абарваў жыцьцё нашага калегі - журналіста, навукоўца, палітыка - на самым узьлёце. Засталіся недапісанымі артыкулы і кнігі, засталіся нерэалізаванымі ідэі, засталіся нязробленымі справы...**

**Але засталася і краіна - Беларусь - дзеля якой ён ахвяраваў свой талент, сілу духу, прынцыповасьць. Як наказ тым, хто застаўся, гучаць сёньня перакананыя словы Анатоля Майсені «ня мы, дык іншыя - мы пераможам!».**



"Раней я не выходзіў да мікрафона, бо лічыў - трэба пісаць. Трэба пісаць, трэба быць аб'ектыўным, трэба быць надпартыйным. Цяпер ісьціна, праўда і аб'ектыўнасьць у тым, што мы ўсе разам і павінны гэты рэжым прыбраць з нашага шляху. Вось дзе ісьціна, праўда і аб'ектыўнасьць! І таму я зьмяніў сваім звычкам і хачу зьвярнуцца да вас.

Скажыце, вось я ўбачыў лозунг «Убралі Лебедя - уберем и Луку!». Скажыце, які чалавек нармальнага сэнсу ў Расеі падтрымлівае Лукашэнку? Падтрымліваюць ці Жырыноўскі, ці Лебедзь, якія аднаго палітычнага генатыпу. Яны рвуцца да ўлады. Ім ні законы, ні Канстытуцыя ня пісаныя. Яны зьвяртаюцца напрамую да народу, бо ведаюць, што толькі абалваніўшы народ, яны ўтрымаюцца пры ўладзе. І тым людзям - Жырыноўскаму і іншым у Расеі мы павінны сказаць: «Адарвем ногі, і не памыеце іх у Індыйскім акіяне, калі палезеце на Беларусь!»

... Я не хачу сказаць пра нейкае незямное паходжаньне Лукашэнкі, але праводзіць ён сатанінскую палітыку. І сатана яму падказвае, што трэба падрэзаць беларускую мову і нацыянальную культуру, што трэба разбурыць нацыянальную эканоміку, што трэба пасварыць наш народ. Толькі сатана гэта можа зрабіць. Ці не пара Лукашэнку зьвярнуцца да бабкі? Хай яна прагоніць сатану з яго і з ягонага ўраду.

І апошняе. Ня мы, дык іншыя - мы пераможам! Мы пераможам сілай духу. Нам ня трэба канфліктаў і канфрантацый!

Жыве Беларусь!"

**З апошняга выступленьня прэзідэнта Нацыянальнага цэнтру стратэгічных ініцыятываў «Усход-Захад» Анатоля Майсені на мітынгу ў абарону Канстытуцыі 19.10.96 г.**

# КАНСТЫТУЦЫЯ ДЫКТАТУРЫ

**КАМЕНТАР *ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА* І *СЯРГЕЯ НАВУМЧЫКА* ДА ПРАЕКТУ КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ПРАПАНАВАНАГА ПРЭЗІДЭНТАМ ЛУКАШЭНКАМ НА РЭФЕРЭНДУМ**

**(Працяг. Пачатак у №46)**

## СУД НЯ БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНЫМ

Сітуацыю, у якой, пры выпадку прыняцьця гэтага праекту, апынецца Канстытуцыйны Суд, варта разглядзець больш падрабязна.

Істотным адрозьненьнем гэтага праекту зьяўляецца тое, што, у адпаведнасьці з ім, рашэньні Канстытуцыйнага Суду ўжо ня будуць мець абавязковай сілы і ня будуць зьяўляцца канчатковымі. Канстытуцыя 1994 году прадугледжвае, што з моманту вынясеньня рашэньня аб неадпаведнасьці Канстытуцыі нарматыўныя акты цалкам альбо часткова трацяць юрыдычную моц. Гэта тычыцца і нарматыўна-прававых актаў міждзяржаўных аб'яднаньняў, у якія ўваходзіць Беларусь, а таксама міжнародных дамоваў. Прыкметна, што прычынай для выбуху грамадзка-палітычнай актыўнасьці на Беларусі вясной-летам сёлетняга году зьявілася менавіта напісанае Лукашэнкам і Ельцыным 2 красавіка беларуска-расейскае пагадненьне, якое пагражае ліквідацыяй суверэнітэту Беларусі. У больш шырокім сэнсе, адсутнасьць у праекце прынцыпу абавязкавасьці рашэньня ліквідуе прынцып вяршэнства Канстытуцыйнага Суду як вышэйшага арбітра ў пытаньнях канстытуцыйнай законнасьці.

Цяпер усе сябры Канстытуцыйнага Суду, як і ягоны Старшыня, абіраюцца Вярхоўным Саветам. У сукупнасьці з 11-гадовым тэрмінам паўнамоцтваў суддзяў гэта дае істотныя гарантыі незалежнасьці Суду ад выканаўчай улады. Праект жа прадугледжвае прызначэньне паловы суддзяў (у тым ліку і Старшыні) непасрэдна прэзідэнтам. Калі ўлічыць, што астатняя палова суддзяў абіраецца не Палатай прадстаўнікоў, а ў значнай ступені падкантрольным прэзідэнту Сенатам, то зусім відавочна: прэзідэнт аўтаматычна атрымлівае магчымасьць забласкаваць практычна любое рашэньне Суду. Хоць праект і вызначае тэрмін паўнамоцтваў суддзяў - 11 гадоў, але не гаворыцца пра тое, што прэзідэнт ня мае права адклікаць прызначаных ім суддзяў да сканчэньня гэтага тэрміну.

Сумнеўна выглядае і прынцып абавязковай наяўнасьці вучонай ступені для кандыдатаў на пасаду сябры Суду. У камуністычныя часы крытэрыем для наданьня вучоных ступеняў, у тым ліку і ў юрыспрудэнцыі, давалі часта зьяўляліся не навуковыя дасягненьні, а лаяльнасьць да ўладаў. Варта зазначыць, што цяпер камісія па наданьню вучоных ступеняў знаходзіцца ў сістэме выканаўчай улады, гэта значыць - падкантрольная прэзідэнту.

Праект прадугледжвае абавязак Суду на прапанову прэзідэнта даваць заключэньні аб наяўнасьці фактаў сістэматычнага і грубага парушэньня Канстытуцыі палатамі парламанту, што ў далейшым можа быць падставай для роспуску парламанту. Цяперашняя Канстытуцыя дае Суду права выносіць заключэньні пра парушэньне Канстытуцыі з боку прэзідэнта, што зьяўляецца асноўным момантам у працэдуры імпічмэнту. Гэтага права Канстытуцыйны Суд пазбаўляецца. Паказальна, што на сёньняшні дзень шасьнаццаць указаў альбо распараджэньняў Лукашэнкі прызнаныя Канстытуцыйным Судом цалкам альбо часткова ня згоднымі з Канстытуцыяй. Згодна праекту, цяпер ужо ніхто ня здолее вынесьці паўнапраўны вердыкт аб канстытуцыйнасьці якіх бы там ні было рашэньняў прэзідэнта. Зрэшты, як ужо казалася, праект і не прадугледжвае адстаўкі прэзідэнта з прычыны грубага і сістэмнага парушэньня Канстытуцыі.

У адрозьненьне ад цяперашняй Канстытуцыі, праект значна аслабляе незалежнасьць як Канстытуцыйнага Суду ў цэлым, так і суддзяў паасобку.

Напрыклад, адсутнічае палажэньне, якое забараняе суддзям займаць тыя альбо іншыя штатныя пасады ў дзяржаўным апараце. У артыкуле 111 сказана толькі пра тое, што суддзі ня могуць выконваць «іншую аплочваемую працу». Аднак здараецца, што тыя альбо іншыя асобы займаюць пасады і без грашовага ўзнагароджаньня. Скажам, нішто не перашкодзіць аднаму альбо нават некальком сябрам Суду заняць пасаду «неаплочваемага» дарадцы прэзідэнта.

У параўнаньні з Канстытуцыяй 1994 году, ліквідаваныя наступныя правы членаў Канстытуцыйнага Суду:

- імунітэт суддзяў, які цяпер роўны імунітэту дэпутатаў парламанту і забараняе арышт, абшукваньне, перагляд асабістых рэчаў;

- права суддзяў у любы момант падаць у адстаўку;

- гарантыі ад узьдзеяньня на суддзяў з боку каго б там ні было.

Апошняе палажэньне (забарона ўздзеяньня на Суд і суддзяў) мае прынцыповую значнасьць ва ўмовах пастаяннага ціску на Канстытуцыйны Суд з боку Лукашэнкі і ягонай адміністрацыі. Хоць артыкул 110 Главы 6 «Суд» і вызначае, што «умяшальніцтва ў дзейнасьць суддзяў пры ажыцьцяўленьні правасуддзя недапушчальнае і вядзе адказнасьць па закону», але абсалютна відавочна, што ў дадзеным выпадку паняцьце «правасудзьдзе» не ахопліве кантроль за канстытуцыйнасьцю нарматыўных актаў і, пры жаданьні, дае магчымасьць выключыць з гэтага палажэньня сябрoў Канстытуцыйнага Суду.

Гэткім чынам, Канстытуцыйны Суд ня толькі пазбаўляецца дэкларавынай функцыі кантролю за канстытуцыйнасьцю нарматыўных актаў, але і ў значнай ступені робіцца залежным ад прэзідэнта. У праекце Канстытуцыі відавочнае жаданьне падпарадкаваць Канстытуцыйны Суд прэзідэнту. Дзейнасьць гэтага ворганy зьведзеная да ўзроўню юрыдычнай канстытуцыйнай экспертызы, якая не прадугледжвае ніякіх юрыдычных вынікаў.

## ПА ПРЫКЛАДУ АДОЛЬФА

У артыкуле 84 праекту, дзе вызначаныя найважнейшыя функцыі і паўнамоцтвы прэзідэнта, першым пунктам, здавалася б, нечакана, запісана: «прызначае рэспубліканскія рэферэндумы». Не пытаньні суверэнітэту, нацыянальнай бясьпекі на першым месцы, як у цяперашняй Канстытуцыі, а менавіта прызначэньне рэферэндуму ёсьць першае і галоўнае. І гэта зусім не капрыз хварабітай псіхікі. Рэферэндум у аўтарытарным недэмакратычным грамадзтве ёсьць магутная палітычная і прававая зброя дыктатуры. Узурпаваўшы ўладу і манапалізаваўшы прэсу, хунта альбо дыктатар, лёгка маніпулюючы масавай сьвядомасьцю, могуць шляхам арганізацыі «падтрымкі народу» дамагчыся быццам бы легітымнага апраўданьня любым, нават самым ганебным, нават крымінальным дзеяньням. Адольф Гітлер у 1934 годзе атрымаў 90 працэнтаў народнай любові, камуністы ў СССР заўсёды мелі 99,9 адсоткаў, Садам Хусейн -амаль 100 (здаралася, што і больш чым сто).

Хунта Лукашэнкі гэта разумее. Таму ў главу 2 «Аб рэферэндуме» унесеныя палажэньні, што рэферэндум прызначае прэзідэнт «па ўласнай ініцыятыве», а таксама на прапанову Сенату і Палаты прадстаўнікоў. Тут жа абмежавана магчымасьць ініцыяваньня рэферэндуму самім народам шляхам увядзеньня раўназначных квотаў подпісаў па вобласьцях і горадзе Менску, што ўскладняе працу і не заўсёды рэальна. Але галоўнае - гэта парушае правы людзей на свабоднае волевыяўленьне, паколькі Беларусь - унітарная дзяржава, а беларусы - адзіная нацыя, а не федэрацыя. Квоты на подпісы па вобласьцях тут непрымальныя. Хунта Лукашэнкі, аднак, паклапацілася, каб зброю рэферэндуму, гэтак жа, як улады і сродкі масавай інфармацыі, трымаць у сваіх руках.

## НА ШЛЯХУ ДА КАНФЛІКТУ

Знаёмства з асноўнымі палажэньнямі Канстытуцыі, вынесенымі на рэферэндум, дазваляе зрабіць высновy, што праект, перанасычаны папуліскімі фразамі і не юрыдычнымі фармулёўкамі, выкліканы выключна палітычнымі мэтамі цяперашняй сітуацыі: жаданьнем Лукашэнкі пазбавіцца адказнасьці за незаконныя дзеяньні і паталагічным імкненьнем да абсалютнай і непадзельнай улады. Гэта ня столькі юрыдычны, колькі палітычны дакумант - прыклад недэмакратычнай Канстытуцыі, якая зацьвярджае непадзельнае аўтарытарнае права на ўладу.

У праекце ліквідаваны асноўны дэмакратычны прынцып - самастойнасьці і падзелу галінаў улады. Парламант і суды, уся кадравая палітыка ў сістэме ўлады, заканатворчы працэс, усе ўладныя прыярытэты і магчымасьці, кантрольныя функцыі, фінансы і бюджэт - усё аддаецца ў рукі адной асобы - прэзідэнта краіны, адсунуць якога, прыцягнуць да адказнасьці, зьмяніць на законных падставах практычна немагчыма. Захаваньня і гарантыям неабмежаванай аднаасобнай улады прэзідэнта падпарадкаваны ўвесь сэнс і зьмест праекту.

Гэтую Канстытуцыю, у выпадку яе прыняцьця, немагчыма рэалізаваць нават у тым варыянце, у якім яна створаная. Яе прыняцьце будзе выглядаць чыста палітычным актам, які дае падставы зацьвердзіць дыктатуру і распрaвіцца з апазіцыяй. Далейшае разьвіцьцё узаемаадносінаў улады і грамадзтва, калі яно паспрабуе жыць па лукашэнкаўскай Канстытуцыі, можа прывесьці толькі да канфлікту. Шляху легітымнага вырашэньня гэтага канфлікту лукашэнкўская Канстытуцыя не прапануе.

Больш за ўсё ад запланаванага рэферэндуму і, потым, ад дзеяньняў улады на падставе аўтарытарнай Канстытуцыі пацерпіць беларуская нацыя (калі яна ўвогуле выжыве пасьля такіх маніпуляцыяў. Ня варта забываць, што за сьпіной Лукашэнкі стаіць расейскі імперыялізм і камуна-фашысцкая палітыка).

Аднак мы гэтаксама зьвяртаем увагу на негатыўныя міжнародныя наступствы ў выніку канстытуцыйнага замацаваньня пракамуністычнай прарасейскай дыктатуры ў краіне Усходняй Эўропы.

У гісторыі з рэферэндумам у Беларусі ёсьць моманты амаль ірацыянальныя. Травеньскі рэферэндум 1995 году, які зганьбіў нацыю, праводзіўся ў парушэньне Канстытуцыі, якая не дазваляе рабіць усенароднае галасаваньне па пытаньнях мовы, міжнароднай палітыкі і гэтак далей. Цяпер сітуацыя паўтараецца. Згодна з цяперашняй Канстытуцыяй, на рэферэндум выносяцца толькі «зьмяненьні і дадаткі да Канстытуцыі», але ніяк не сама Канстытуцыя. Пры гэтым, галасуюць зноў жа толькі па «рашэньні аб зьмяненьні і дапаўненьні» Канстытуцыі, а не па ўсёй Канстытуцыі. І рашэньне лічыцца станоўчым, калі прагаласуе ня менш як 2/3 удзельнікаў рэферэндуму, як таго патрабуе артыкул 36 Закону аб рэферэндуме.

Тым ня менш, парламант ня толькі прызначыў дату рэферэндуму, але ўплывовая фракцыя камуністаў вынесла на ўсеагульнае галасаваньне яшчэ адзін (уласны) праект Канстытуцыі, змагаючыся такім чынам супраць рэферэндуму, за які самі ж раней і прагаласавалі. Тым ня менш, факт застаецца фактам - вынясеньне на рэферэндум праекту Канстытуцыі, а не паправак і дадаткаў, - незаконнае.

**Зянон ПАЗЬНЯК, Сяргей НАВУМЧЫК.**

# ФАРА ВІТАЎТА ПАВІННА ПАЎСТАЦЬ З НЯБЫТУ

**У нашай гісторыі шмат датаў. Адны - тыя, што шануем, што сталі сьвятымі, сьвятамі. Другія - нашая ганьба. Зьвязаны яны з велізарнымі стратамі. Найперш духоўнымі. Бо калі матэрыяльны ўрон прыблізна можна зьмераць, то мерак для духоўнага - няма. Зьнішчэньне, разбурэньне таго, што павінна было застацца назаўсёды.**

**Такой ганебнай датай для нашай Горадні стаў дзень (больш дакладна -ноч) 29 лістапада 1961 году, калі была ўзарваная фара Вітаўта. Храм, што меў надзвычай няпросты лёс, але заўсёды аднаўляўся, адраджаўся, паўставаў. Фара Вітаўта, касьцёл Прачыстай Маці Боскай, Гарадзенскі фарны касьцёл - самы вялікі, самы прыгожы, самы першы ў горадзе рыма-каталіцкі касьцёл.**

**З таго часу сыйшло 35 гадоў. У залатым веку гараднянкі, што нарадзіліся тады. Але ці ў залатым Горадня?**

...Ён быў студэнтам Гарадзенскага педінстытуту ў 50-я гады. Прыехаў сюды амаль праз сорак. Прыехаў у горад свайго юнацтва. Хадзіў па вулках, успамінаў. Прыйшоў на плошчу. Устрывожаны, зьбянтэжаны, не пазнаў яе. «Не, гэта ня тая плошча. Не разумею, што здарылася, але гэта - ня тая плошча», - разгублена паўтараў ён сыну. Такім гэтае месца ён не пазнаў і не прызнаў. Паехаў расчараваны, пакрыўджаны. І толькі пасьля яго ад'езду сын успомніў, што шукаў бацька...

Заглянем у той час.

Яны рыхтаваліся старанна. «Мерапрыемства» павінна было прайсьці арганізавана. І найпершы клопат - пра людзей! У нас заўсёды клапоцяцца пра народ. Жыхароў навакольных дамоў папярэдзілі, каб не спалохаліся, каб ведалі, што ўсё адбываецца па плану, законна. Забітыя вокны. Горад падрыхтаваны да наступу. Супраць сьвятыні. Гэта была сапраўдная вайна. Шырокамаштабны наступ. На веру, на народ, на Беларусь. Па ўсёй нашай зямлі руйнаваліся храмы...

У самым цэнтры гораду, у самым людным месцы - пустэча. А мо адсюль, са сьвятога пустога месца і павінны пачынацца экскурсіі па Горадні? Што было, што ёсьць, што павінна быць.

Чаму такое магло здарыцца ў месьце, дзе калісь прызямліўся Хрыстос? Чаму ўвогуле такое магло здарыцца? Хто ўрэшце «героі», што зьдзяйсьнялі? Ні адна такая справа не вырашалася ў тыя часы на Беларусі без «кіруючай і накіроўваючай». А «першым» на Беларусі тады быў тав.Мазураў, у вобласьці - тав.Міцкевіч. Не, іх імёнаў ня знойдзем пад дакумантамі, што захаваліся ў архівах. Але бяз іх згоды ці прамога ўказаньня на тое не магло зьдзейсьніцца ні адно «геройства» такога зьместу. Засталіся прозьвішчы тагачаснага старшыні гарсавету Воранава М.М., яго намесьніка Тыпоўскага У.І., начальніка гараддзелу міліцыі Назаркіна П.П. Але яны «ні ў чым не вінаватыя», як сьцьвярджаюць самі ці іх нашчадкі. Яны выконвалі загад! А спадар Тупоўскі У.І., які быў старшынём утворанай па гэтай справе дзяржаўнай камісіі, нават не прысутнічаў, па яго словах, на паседжаньні гарвыканкаму, дзе вырашалася справа зьнішчэньня касьцёлу. Як ён тлумачыць, асноўная прычына зносу - аварыйны стан, немагчымасьць рэстаўрацыі. Дый непатрэбны: столькі касьцёлаў вакол! Вось як! Добра ўжо і тое, што гэты чалавек, ізноў жа, па ягоных словах, і тады, і цяпер супраць такога варварства. Але ніхто ягонай згоды на тое не пытаў.

Рашэньне за нумарам 213 пра знос «аварыйнага будынку былога ваеннага касьцёлу» было прынята на паседжаньні гарвыканкаму 7 сакавіка 1961 году. Бадай, самае непрыемнае, што зафіксавана ў пратаколе паседжаньня, - аўтарства прапановы па зносу. Яе зрабіў дырэктар краязнаўчага музею Собаль Мікалай Ісакавіч. Той, хто павінен быў абараняць найперш. Чаму? «Час быў такі», - патлумачыла яго былая каляжанка, якая з вялікім болем гаворыць пра гэтае злачынства.

Хто ж непасрэдна выконваў загад тых, хто выконваў найвышэйшы загад? Сьпецыялісты «высокага класу», «прафесіяналы». Ні адна шыба ў дамах ня вылецела. Дый гул ад выбуху быў ня надта каб і моцным. Брыгада «сьпецыялістаў» была дастаўленая з самога Ленінграду. На чале з таварышам Пінам. Бяздумныя, неразумныя марыянеткі-чужакі бяз Бога ў душы, без цара ў галаве, якія ня ведалі, што тварылі. Выконвалі загад! Замкнутае кола. Але ўсё ж якая сіла раскруціла, завяла гэтую ганебную машыну зьнішчэньня? Падказала, накіравала, натхніла? Хіба сам д'ябал. Без ягонай волі тут не абыйшлося. І да сёньняшняга часу ён вольна гуляе па нашай Горадні. І гора сее. І натхняе, накіроўвае. Час сатаны працягваецца.

Няўжо супраць слугаў Чорнага не знайшлося тых, хто здольны быў супрацьстаяць? Сьвятар Міхал Арановіч, некалькі вернікаў, што сталі на парозе Храму. Невялікая Сіла. Усё ж трымаліся цэлы дзень. Ды слугам д'ябла ноч - не перашкода. Яны асабліва любяць правіць свой баль у цемры. І справілі. Пякельны феерверк. Аж да неба. І неба адвярнулася ад Горадні.

35 гадоў. Гадавіна злачынства. Іх ужо судзяць справядлівым судом. Ня ў нас. У Летуве. Не за гарамі Летува. Але як далёка ад Беларусі сёньня! У нас яны адраджаюцца, аднаўляюцца. У нас яны нават праваслаўныя, атэісты. Якая бязглуздзіца! І ў храмы ідуць, што не пасьпелі зьнесьці ці што пасьпелі згодна з новым ветрам адбудаваць.

Лістапад - самы чорны месяц нашай зямлі. Няўжо сёлетні лістапад ня вырвецца з ланцуга жахлівых лістападаўпапярэднікаў? Няўжо і сёньня на Беларусі перамогуць чорныя сілы? У іх ёсьць шанец. У іх ёсьць на што абаперціся: на зруйнаваныя людзкія душы, на апусьцелыя галовы. Бяз Бога ў душы. З сатаной у галаве. Яны прыйдуць, каб аддаць яму даніну. Іх страшэнна многа. Бо слугі д'ябла старанна рыхтавалі іх да чарговага «волеизъявления». Няўжо гэты лістапад стане старонкай іх гісторыі? І нашай нацыянальнай ганьбы? Мы - у нябыце. І няўжо нам ня быць?!

Сьвятое месца пустым не бывае. У нас, у наш час яно — пустое. Але быць такім не павінна. І яшчэ дзякуй Богу, што яны не збудавалі на гэтым месцы якінебудзь дом маскультуры. Храм павінен быць адроджаны. Для таго ня лепшы час? А калі ён быў лепшым? Фара Вітаўта павінна паўстаць з нябыту! Мо тады й прыйдзе залаты час на нашую зямлю.

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ,**
**Віталь ПАТЛІС.**

## БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ

**З 20 па 30 лістапада ў Гарадзенскай вобласьці пройдзе абласная частка XXIII міжнароднага фестывалю «Беларуская музычная восень».**

Па праграме фестывалю ў Горадні, Ваўкавыску, Слоніме і Мастах адбудуцца канцэрты Берасьцейскага камернага аркестру: у Наваградку, Карэлічах, Шчучыне і Іўі - канцэрты Дзяржаўнага акадэмічнага аркестру; народных інструментаў імя Жыновіча. Таксама ў рамках фестывалю ў Горадні выступяць ансамбль сучаснай харэаграфіі «ТАД» ды Хана Ёнкерс і Бруна Маер са Швайцарыі.

**Віталь НІКАНОВІЧ.**

## «ТАЙНЫ ВІЦЕБСКАЙ ГІСТОРЫІ»

**400-годдзю Берасьцейскай царкоўнай Вуніі 1596 году прысьвяціў сваю толькі што выдадзеную ў Віцебску кнігу «Забойства Іасафата Кунцэвіча» былы лідар мясцовай арганізацыі БНФ Міхась Паўлаў.**

Дакументальны аповяд аб служэньні і трагічнай сьмерці вуніяцкага архіепіскапа, які жыў у 17 стагоддзі, адкрывае задуманую аўтарам серыю «Тайны віцебскай гісторыі». На чарзе - дасьледаваньне аб доктары медыцыны, вынаходцы гіпсавай павязкі - Карле Врангеле Філіпе Гібентале, чыя біяграфія цесна зьвязана з гэтым старажытнейшым беларускім горадам.

**Леў КАМЕНСКІ.**






**23 лістапада**

**1824 г.** Нарадзіўся Баляслаў Русецкі, жывапісец, графік, які значны час жыў і працаваў на Гарадзеншчыне.

1886 г. У Кракаве (110 гадоў таму) памёр Адам Кіркор, этнограф, гісторык, археолаг, публіцыст, выдавец, літаратуразнавец і грамадзкі дзеяч.

**24 лістапада**

**1902 г.** У Барунах нарадзіўся Мікалай Арэхва, дзеяч грамадзка-палітычнага руху, сябра КПЗБ.

**25 лістапада**

**1714 г.** У Дзятлаве нарадзіўся Томаш Жаброўскі, архітэктар, астраном, матэматык.

1795 г. У Гарадзенскім Новым замку Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адрокся ад каралеўскага пасаду. Тым самым трэці падзел Рэчы Паспалітай быў замацаваны юрыдычна.

**26 лістапада**

**1805 г.** Нарадзіўся Яўстах Янушкевіч, кнігавыдавец, публіцыст, мемуарыст. Палявы камандзір, адзін з арганізатараў збройнага чыну 1830/31 гг. на тэрыторыі Ашмянскага, Слуцкага і Навагрудзкага паветаў.

1864 г. Памёр Тодар Нарбут, гісторык і археолаг, удзельнік нацыянальна-вызвольных паўстаньняў 1830/31 і 1863/64 гг.

1885 г. У Канстанцінопалі памёр Адам Міцкевіч, паэт, класік сусьветнае літаратуры, філамат і грамадзкі дзеяч.

**1891 г.** У вёсцы Арляняты (цяпер Смаргонскі раён) нарадзіўся Янка Станкевіч (105 гадоў таму), доктар філалогіі, грамадзка-палітычны дзеяч, перакладчык Біблії, рэдактар часопіса «Родная мова».

**1930 г.** У Воршы нарадзіўся Уладзімір Караткевіч, празаік, паэт, публіцыст, класік беларускае літаратуры.

**27 лістапада**

**1903 г.** У вёсцы Сакаўцы Слонімскага павету нарадзіўся Піліп Пестрак, беларускі паэт і пісьменьнік, дзеяч заходнебеларускага руху.

**1938 г.** Расстраляны Сымон Рак-Міхайлоўскі, грамадзка-палітычны дзеяч, сябра Рады БНР, педагог, публіцыст, перакладчык, паэт.

**Падрыхтаваў Ул. ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# КРЫЖАВАНКА

*Перакладзі на беларускую мову*



**Па гарызанталі:** 5.Размазня, разиня. 6.Обращение. 10.Вооружение. 13.Расчёт. 16.Попытка. 17.Холм. 18.Обычай. 19.Топливо. 23.Оттиск. 24.Совёнок. 25.Кожица. 28.Смотритель. 29.Ноябрь. 30.Выход (из трудного положения).

**Па вертыкалі:** 1.Молодой месяц. 2.Пядь. 3.Известь. 4.Суеверия. 7.Мракобесие. 8.Упрёк. 9.Удовлетворённость. 11.Опилки. 12.Делишки. 14.Высокомерие. 15.Пестрядь (домотканая). 20.Справочник. 21.Ростовщик. 22.Лукошко. 26.Обезьяна. 27.Веха.

**Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў папярэднім нумары:**

**Па гарызанталі:** 5.Парфума. 6.Заморак. 8.Прыметнік. 11.Скула. 14.Цесля. 15.Камінар. 16.Цыбуля. 17.Адрына. 20.Сцягняк. 22.Гузік. 23.Асцюк. 26.Палукашак. 27.Згібіна. 28.Цеплыня.

**Па вертыкалі:** 1.Вавёрка. 2.Хмара. 3.Лапік. 4.Басэтля. 7.Пернік. 9.Зламыснік. 10.Пераноссе. 12.Капліца. 13.Тандляр. 18.Згадка. 19.Сутарга 21.Люлянне. 24.Лазня. 25.Засек.

